## ПАДАТКОВАЕ «СПАБОРНІЦТВА»

*Міні-фельетон*

Такое адчуванне, што нейкі злодзей-фінансіст узяўся праводзіць спецыяльныя «спаборніцтвы»: якая злачынная група заробіць найбольшую колькасць грошай шляхам нявыплаты падаткаў дзяржаве. На жаль, колькасць удзельнікаў гэтага «конкурсу» з цягам часу не памяншаецца.

Своеасаблівымі незалежнымі «экспертамі» ў дадзеных «спаборніцтвах» выступаюць супрацоўнікі фінансавай міліцыі Камітэта дзяржкантролю. Галоўнай спецыфікай іх суджэння з'яўляецца тое, што «пераможцаў» яны выяўляюць і прыцягваюць да адказнасці.

Ужо сёлета адметнымі вынікамі сваёй незаконнай дзейнасці вызначыліся дзве групоўкі злодзеяў.

Адны з іх — пяцёра жыхароў Гродна, якія са жніўня 2010 года па чэрвень 2013 года ўвезлі з Расіі ў нашу краіну будаўнічыя матэрыялы на агульную суму больш як 1,5 мільярда рублёў. Затым у справу ўступілі «падстаўныя» фірмы, якія быццам бы займаліся збытам незаконных тавараў. У выніку дзяржава недалічылася падаткаў больш як на 450 мільёнаў рублёў.

Цяпер па гэтым факце ўзбуджаны чатыры крымінальныя справы. Вядзецца следства, якое, безумоўна, выявіць усе незаконныя аспекты дзейнасці злачыннай арганізацыі.

Другія злодзеі — з Мінска. З 2011 па 2013 гады яны «дапамагалі» розным камерсантам пазбягаць падаткаў і «адмываць» нелегальныя тавары шляхам падробкі дакументаў ці праз рэквізіты і разліковыя рахункі лжэпрадпрыемстваў. Такім чынам у бюджэт дзяржавы не паступіла падаткаў на суму больш як 2 мільярды рублёў.



Зараз усе матэрыялы справы перададзены ва Упраўленне Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па горадзе Мінску. Спадзяёмся, што ніхто са злачынцаў, якія не толькі «працавалі» ў гэтай арганізацыі, але і карысталіся паслугамі дадзенай групоўкі, не пазбегне адказнасці.

«Спаборніцтвы» ж працягваюцца. Вось толькі ці варта ўдзельнічаць у «конкурсе», галоўным прызам якога з'яўляецца крымінальная справа і гады, праведзеныя «пераможцамі» за кратамі?

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Андрэя СЛУЦКАГА.

*Паспяховы мужчына — той, хто зарабляе больш, чым траціць яго жонка. А паспяховая жанчына — тая, якой удалося знайсці такога мужчыну.*

*Саша Гітры (французскі пісьменнік, акцёр, рэжысёр)*






# Непатаемнае брыдкаслоўе



Раней наіўна меркавалася, што мацерныя словы жывуць выключна ў цёмных падвалах і брудных падваротнях. Але гэты час незваротна мінуў! Мат у нашым камерцыйна-аголеным XXI стагоддзі надзвычай утульна адчувае сябе ў рэспектабельных кабінетах, у сучасна абстаўленых кватэрах, у аўтамабілях, у клубах, на стадыёнах, за кулісамі тэатраў, а то і на сцэнах (!)...

Брыдкаслоўе са сваімі шматлікімі «эпітэтамі» і «наваўтварэннямі» ўжо даўно стала для многіх фармальнай ацэнкай якасці чаго-небудзь. Не верыце? Тады папрасіце свайго суразмоўцу што-небудзь ацаніць (неістотна — добрай ці дрэннай якасці). Няцяжка здагадацца, што пачуеце ў адказ...

Брыдкасловіць можна пры чужых людзях, можна — пры дзецях, можна — пры жанчынах і дзяўчатах. Чаго саромецца: у нас жа цяпер эмансіпацыя і фемінізацыя!

Я вельмі рэдка чую, каб хтонебудзь каго-небудзь хоць трошкі прысароміў за брыдкія словы. Раней гэтую функцыю добраахвотна выконвалі бабулькі на лаўках, пажылыя жанчыны, старыя са свежай газеткай у кішэні. Цяпер такіх неабыякавых з гушчы народа бадай што няма... Зараз нават многія настаўнікі спакойна праходзяць міма, калі вучні лаюцца і кураць, п'юць піва каля роднай школы... «Патаемны брыдкаслоў» — менавіта так ахарактарызаваў свайго героя Зелянова з рамана «Каласы пад сярпом тваім» мой любімы пісьменнік Уладзімір Караткевіч. А колькі сярод нас такіх патаемных брыдкасловаў, якія, не прамаўляючы, праклінаюць блізкага, сваяка, суседа...

У народнай традыцыі недапушчальнай лічылася лаянка на жанчыну. Асабліва нашы продкі асуджалі ўзаемныя сваркі жанчын. Лічылася таксама небяспечным лаяцца на дзяцей: інакш на тым свеце яны адвернуцца ад маці, не пазнаюць яе. Бацькоў жа, якія клянуць сваіх дзяцей, чакаюць смяротныя пакуты, на іх асуджана і само дзіця: яго могуць забраць злыя сілы. Забаранялася лаяцца і на свойскую жывёлу — пры выпасе, пры даенні, на вадапоі. Брыдкаслоўе прыцягвала хваробы не толькі хатніх, але і дзікіх звяроў — гэта добра ведалі нашы продкі-паляўнічыя.

Ні ў якім выпадку нельга было лаяцца ў хаце, пры абразах, каля печы. Памятаю, як мая бабуля Тацціяна прыводзіла ў доказ такую прымаўку: «Сказаў бы, ды печ у хаце...» Меркавалі, што мат вельмі не падабаецца дамавіку. Баючыся лесавіка, не лаяліся ў лесе, асцерагаючыся палевіка — не лаяліся ў полі. Нашы продкі лічылі, што брыдкія словы прыцягваюць нячыстую сілу, а ў хаце, дзе людзі лаюцца, паселяцца гора ды бяда. Анёлы ж, наадварот, пакідаюць такое жытло.

Сёння ж, у пачатку XXI стагоддзя, наогул невядома, каму можна аддаць лідарства ў «мастацтве мацюкацца»: вельмі шмат прэтэндэнтаў развялося! Вялікіх і малых, дзядуль і ўнукаў, бацькоў ды сыноў, бабуль, дзяўчат ды кабетак... На жаль, мат у нашым быце стаў самай масавай з'явай. Лаюцца ўжо і ў дзіцячых садках, і ў пачатковай школе...

Калі так пойдзе і далей, то будзе не проста «пік-пік», як у тэлевізары, а мат атрымае юрыдычныя правы літаратурнага «грамадзянства». Ужо выдадзена шмат твораў з пачварнымі «разынкамі», ужо сёння ён пакрыху адваёўвае месца пад сонцам побач з прыгожай славеснасцю, прабіраецца на тэатральныя падмосткі і на экраны. Пакуль яшчэ ў касцюме простай, даходлівай, сакавітай народнай мовы. І пад прыкрыццём лозунга аб праўдзівым паказе рэчаіснасці. Але неўзабаве ён можа скінуць чужое адзенне. Ведае, што ў любым выглядзе прымуць. Ды яшчэ па плячы пахвальна паляпаюць: маўляў, у дошку свой хлопец! Бо ў нас матам нават не сварацца — у нас матам многія... размаўляюць.

Можна, вядома, гаварыць сёння пра недастатковы ўплыў сям'і і школы на маладое пакаленне, пра звергнутыя ідэалы і нормы маралі мінулага стагоддзя. Толькі ці варта? Можа, лепш усім нам наогул не прамаўляць тых слоў, якіх раней было не прынята ўжываць сярод нармальных людзей, і іншым не дазваляць? Уласна кажучы, нічога для гэтага не трэба. Ні капітальных укладанняў, ні асаблівых загадаў ды пастаноў. Не трэба чакаць і новага панядзелка, каб канчаткова «завязаць» з матам. Інакш, напэўна, ніколі гэтага шчаслівага часу — без брыдкаслоўя — мы не дачакаемся...

**Канстанцін КАРНЯЛЮК,**
*г. Віцебск.*



**Уладзімір ЕРМАЛАЕЎ**

## ПАГАВАРЫЛІ...



Гаварыла жаба мужу:
«Да мяне скачы ў калюжу».

Зіркнуў муж на жабу прэсна:
«Удваіх нам будзе цесна.
Бач, таўшчэзная якая, –
Мне ўжо месца не хапае».

Папракнула жаба мужа:
«Адцураўся ад калюжы!»

Квакнуў муж: «Адна нудота...
Надта хочацца ў балота.
Мошкі, ножкі ды лілеі,
Жабін хор душу сагрэе».

Стала жаба страшыць мужа:
«Лезь, гуляка, у калюжу!»

Муж патыліцу пашкрабаў:
«А нашто мне жонка-жаба?
Я ў калюжы побач ранкам
Знаўся з жабкаю-каханкай».

Тут як рэзне жаба мужу! –
Той аж боўтнуўся ў калюжу.

Дык пра што была гаворка?
Дробязь... Хатняя разборка.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Толькі пасля вяселля даведваешся, што дзявочыя тайны – дробязі ў параўнанні з сакрэтамі жонкі.

Усё ж лепш бяссонніца, чым вечны сон.

Яе муж быў бы проста анёлам, калі б не напіваўся да чорцікаў.

У жыцці можна прывыкнуць да ўсяго. І нават да раскошы.

Некаторым жанчынам варта больш сачыць за сваёй фігурай, чым за модай.

Трухін ніяк не можа зразумець, чаму жонка кажа, што ён ні рыба ні мяса, а сама часта есць яго поедам.

Жанчыны шмат чаму навучылі мужчын. Напрыклад, рабіць «заначку».

**Даслаў Барыс КАВАЛЕРЧЫК,**
*г. Гомель.*

Бывае, што разумныя думкі ўпарта не лезуць у галаву, хаця яна і пустая.

Часцей за ўсё зубы паказвае той, у каго рожкі выраслі.

І народжаны поўзаць можа вылецець у трубу.

Іншы падхалім, хаця і не танцор, але скача пад начальніцкую дудку.

Работнік з пустой галавой прыходзіць да шэфа не з пустымі рукамі.

**Даслаў Міхал ШУЛЬГА,**
*Буда-Кашалёўскі раён,*
*г. п. Уваравічы.*

# Віншуем!




*Пісьменнік Уладзімір Іванавіч МАЦВЕЕНКА (1928) супрацоўнічае з часопісам «Вожык» не менш чым сорак гадоў, а гэта значыць, што столькі ж часу «лечыць» сваімі творамі – байкамі, гумарэскамі, мініяцюрамі, эпіграмамі – шматлікіх чытачоў. Медык па адукацыі, гэты адмысловы Айбаліт добра вядомы і юным чытачам: У. Мацвеенка – знакаміты дзіцячы пісьменнік. Ён лаўрэат літаратурных прэмій імя Янкі Маўра і імя Васіля Віткі, выдаў шмат дзіцячых кніг. Але і пра гумар ніколі не забываў. Першая кніга паэта ў «Бібліятэцы «Вожыка» мела назву «Лекі без аптэкі» (1987). Пазней выйшлі кнігі для дзяцей «Загаданачка» (1993), «Азбука ў загадках» (1992), «Сорак скорагаворак» (1998).*

*«Вожык» шчыра віншуе свайго даўняга і надзейнага сябра, надзвычай добразычлівага і далікатнага чалавека, шаноўнага Уладзіміра Іванавіча з 85-годдзем і зычыць яму моцнага здароўя, творчага плёну, бадзёрасці і добрага настрою!*

**Уладзімір МАЦВЕЕНКА**

## Чарапаха і Слімак

Да Чарапахі
Сватаўся Слімак...
Ён растлумачыў
Свой учынак так:
– Хоць Чарапаха
І не прыгажуня,
Але таксама
Мае асабняк.



## Складаная сітуацыя

Ўнук прывёз бабулю Насцю
У асобную кватэру.
Не знайшла бабуля шчасця,
Хвалявалася праз меру.

Кажа ўнуку Апанасу:
– Трэба, хлопец, ажаніцца.
Маю вольнага шмат часу,
Ды... няма з кім пасварыцца.

## Стрэляны верабей

– Прыходзьце з жонкай
На абед да нас, –
Напомніў ранкам
Свату Апанас. –
Спачатку
Мой сынок старэйшы
Нам пачытае
Свае вершы.
Другі сынуля
Паспявае.
Дачка малая
Паіграе.
Фотаальбомы паглядзім,
І ў сем гадзін
За стол святочны
Сядзем.
Сват усміхаецца
На гэта Апанасу:
– Прыедзем лепш у сем.
Раней не будзе часу.



## Гукаўлоўніца

– Вось нам трапілі суседзі! –
Кажа ранкам жонка Федзю. –
Як яны ўхітраюцца?
Днём і ноччу лаяцца.
Федзя лыпае вачыма:
– Гэта сніла ты, магчыма?
Дом наш добра збудаваны,
Ён гукаізаляваны.
– Ты, – гаворыць жонка суха, –
Ў ізаляцыі прафан.
Паспрабуй прыкласці вуха
Пад водаправодны кран.

## Фантазёры




Іван гаворыць Міхасю:
– Сабака мой падрос.
Амаль усё ён зараз можа.
Задачкі сяду я рашаць,
Ён тут як тут –
Умомант дапаможа.

Міхась яму ў адказ:
– Я добра ведаю пароду гэту.
А мой дзівак, ну што з яго узяць...
Кажу яму:
– Байкал, нясі газету! –
А ён бяжыць яечню гатаваць.

## Дэфіцыт

Шмат людзей навокал розных:
З белай скурай, з жоўтай скурай,
З чорнай, быццам антрацыт.
Шмат людзей навокал розных:
Моцных, мудрых і сур'ёзных,
А на добрых – дэфіцыт.

*Сяброўскі шарж Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.*






Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

## Анекдот

Тата – злосна:

– Пеця! Растлумач мне, чаму ў цябе па ўсіх прадметах, акрамя геаграфіі, двойкі?!

Сын, нахмурыўшыся, адказвае:

– Па геаграфіі мяне яшчэ не пыталіся...



Малюнак Аляксандра ШМІДТА.

## Анекдот

Хлопчык-першакласнік пытаецца ў свайго таты-матэматыка:

– Тата! Як пішацца лічба восем?

Той, не адрываючыся ад формулы:

– Бясконцасць, развернутая на пі папалам...




*Братка Вожык! Ёсць у мяне незвычайнае хобі: я вельмі люблю чытаць інструкцыі. Як толькі бяру ў рукі новы прадукт, вочы адразу шукаюць указанні, якім чынам яго правільна эксплуатаваць.*

*Больш за ўсё мне падабаецца чытаць інструкцыі на роднай мове. Так прыемна становіцца на душы, калі бачу кароценькае BY! Вось толькі шкада, што зазвычай у невялічкім апісанні столькі памылак, што аж дзіву даешся.*

*Напрыклад, купіла нядаўна жонка новы асвяжальнік паветра. І толькі пачаў чытаць інструкцыю, як валасы на патыліцы заварушыліся. У невялічкім абзацы я налічыў каля дзесяці памылак кшталту «асвяжыцель», «акеан», «распыльваць у розныя стораны», «бытавой адыход» і інш.*

*Не ведаю, як табе, а мне ў такія моманты становіцца вельмі крыўдна за беларускую мову. Няўжо вытворцы не могуць знайсці спосаб, як пісьменна перакласці апісанні свайго прадукту на мовы тых краін, куды яго экспартуюць?..*

**Іван БЕЛЫ,**
*г. Гродна.*

*Прывітанне, паважаны дружа!*

*Нядаўна быў я ў Лагойску і завітаў у магазін «Пасаж». Відаць, працуюць у ім вясёлыя людзі, якія любяць жарты і розыгрышы. Інакш чым патлумачыць той факт, што на адной шыльдзе напісана: магазін працуе да 22 гадзін (глядзі фота 1), а на другой – да 21 гадзіны (глядзі фота 2)? Вось такі, як кажуць, пасаж! Толькі пакупнікам ад такіх жартаў зусім не смешна...*

**Сяргей ЛАПЦЁНАК,**
*г. Мінск.*




*Фота 1*




*Фота 2*

## Сяргей ДАВІДОВІЧ

### ДЗЕД-ГІДРАМЕТ



То снег, то дождж ліне,
Начхаўшы на прагноз.
Ён спраўджваецца, не:
То едзе на мане,
А то — па ветры нос.



А вось сусед мой, дзед,
Хоць не чытаў буквар,
Мудрэй за «гідрамет» —
Прагнозаў уладар.

Ён слухае заўжды
Прагноз, раскрыўшы рот:
Прадказвае тады
Усё наадварот.

— Ты мудры сярод нас! —
Чуваць з усіх бакоў.
А дзед ім у адказ:
— Чытайце між радкоў.

### Я АДЗІН, А ВАС ЧАТЫРЫ...



— Ох, не мёд,
скажу вам шчыра,
Долечка мая.
Я адзін, а вас чатыры —
Разгубіўся я.
Нібы краскі, як сунічкі,
Нібы зоркі-чараўнічкі,
Я адзін, а вас чатыры —
Разгубіўся я.

Колькі раз
рабіў я спробы
Больш не варажыць.
Вы усе мне даспадобы —
Як далей мне жыць?
Ты — святлянка!
Ты — чарнушка!
Ты — з касой!
Ты — з завітушкай!
Вы усе мне даспадобы —
Як далей мне жыць?

Я сталею нежанаты —
Так жыццё міне.
Можа б, лепей вы,
дзяўчаты,
Выбралі мяне?
Я — прыгожы,
Я — харошы!
Поўныя кішэні грошай —
Можа б, лепей вы,
дзяўчаты,
Выбралі мяне?

— Для тугі няма прычын,
Сустракай вясну.
Нас чатыры, ты адзін —
Выбірай адну.
Я чароўна падміргну.
А я сонейкам зірну!
Я змілую!
Я сцалую!
Выбірай адну.



### АНЕКДОТ

— Ёсць дзве рэчы, якія я лічу самымі важнымі, — сказаў настаўнік першаму класу. — Першае — гэта чысціня. Вы ўсе выцерлі ногі аб дыванок перад дзвярамі?

— Так, канечне! — хорам закрычаў увесь клас.

— Добра. А другое — гэта праўдзівасць. Перад дзвярамі няма ніякага дыванка!




*Іранеска*

У ката Баюна Мурзіка, аднаго з самых знакамітых і паважаных грамадзян Казачнай дзяржавы, дзень нараджэння. Тэлефон не змаўкаў з самай раніцы, паштальён прынёс амаль цэлы мех віншавальных паштовак і лістоў.

Пакуль Мурзік упрыгожваў сваё жытло, гатаваў тое-сёе, то і госці пачалі прыходзіць. Першымі пагрукалі ў дзверы два лепшыя сябры імянінніка — таксама каты Баюны Барыс і Марцін, завітаў нават даўні знаёмы Кашчэй Бессмяротны. Як толькі прыйшлі апошнія запрошаныя госці — Баба-Яга са сваёй чорнай коткай Муркай, гаспадар паклікаў усіх за стол.

Падмацаваўшыся, накрычаўшыся розных тостаў ды пажаданняў за здароўе, шчасце і дабрабыт гаспадара, госці вырашылі крышку пазабаўляцца.

— У мяне ёсць прапанова! Давайце правядзём конкурс на лепшую казку. Тым больш, з такімі ўдзельнікамі спаборніцтва будзе вельмі захапляльным. А пераможцу аб'явіць Мурзік, бо ён тут сёння самы галоўны, — прапанаваў кот Баюн Марцін.

Усе прысутныя задаволена загудзелі і пачалі зручна размяшчацца на сваіх месцах.

— Калі я прапанаваў, то дазвольце мне і пачаць, — сказаў Марцін і сеў так, каб яго ўсе бачылі.

«Трыдзясятае каралеўства заўсёды спаборнічала з трыдзявятым цар-



ствам, хто з іх лепшы, больш развіты. І рабіла ўсё магчымае, каб на прылаўках магазінаў як мага часцей з'яўляліся новыя, унікальныя тавары, пра якія і не чулі ў суседнім царстве. У каралеўстве нават з'явілася спецыяльная арганізацыя (называлася яна «ПУД» — прададзім усё дорага), якая прыдумляла, чым можна зацікавіць пакупнікоў, як прымусіць іх купляць новыя тавары.

Любімым словам у работнікаў дадзенай арганізацыі было «інавацыйны». Амаль усе апісанні тавараў пачыналіся з гэтага эпітэта. Калі з'яўлялася новая каўбаса, то яна была выраблена з дапамогай інавацыйных тэхналогій (а на заводзе ўсяго толькі змянілі колер упакоўкі гэтага мяснога вырабу), ці інавацыйны маянэз (да гэтага быў у звычайным пачачку, а раптам стаў у пластмасавай баначцы са зручнай крышачкай).

Прычым з кожным годам словы, якія выкарыстоўвала гэта прадпрыемства, рабіліся ўсё больш і больш мудрагелістымі. Усялякія нанатэхналогіі, нанакасметыка, розныя дабаўкі, карысныя бактэрыі кшталту Lactobacillus, Casei, Rhamnosus у ёгуртах-кефірах, без якіх арганізм чалавека не можа абысціся.

Вось і напрыдумляліся яны да таго, што звычайныя людзі перасталі ўвогуле разумець, што за прадукты, рэчы ляжаць у магазінах. Ды і цяжка было выбраць з шэрагу інавацыйных нанатавараў нешта звычайнае. Абурыліся тады жыхары каралеўства, згаварыліся паміж сабой, што будуць купляць толькі самыя простыя прадукты, да якіх прывыклі яшчэ з дзяцінства.

Убачылі супрацоўнікі «ПУДа», што не будзе больш ім работы ў гэтым каралеўстве, сабралі свае інавацыйныя манаткі і пайшлі шукаць новае каралеўства, дзе можна прадаваць свае звычайныя нанатавары».

— Цікавая казка. Я б нават сказаў, што ў нашай Казачнай дзяржаве можна сустрэць некалькі прадстаўнікоў такога «ПУДа». Вось тады вам наш аповед, — сказалі Баба-Яга і котка Мурка і памяняліся з катом Марцінам месцамі.

«Жылі-былі дзве дзяўчыны-суседкі — Аня і Каця. І колькі сябе помнілі, спаборнічалі за званне «Прыгажуні наваколля». Што яны толькі не рабілі, як не выхваляліся адна перад адной, але нічога не дапамагала. Варта аднай дзяўчыне купіць сабе новую сукенку па апошнім піску моды, дык і другая бяжыць у краму. Ці, напрыклад, Каця зробіць модную прычоску, і Аня ўжо нешта незвычайнае вытварыць з валасамі.

І вось аднойчы сустрэліся гэтыя суседкі на вуліцы і пачалі спрачацца, у каго з іх касметыка лепшая.

— Я нядаўна фарбу для валасоў купіла, «Гарнера» называецца, дык яна ўтрымлівае масла алівы. Паглядзі, як блішчыць на сонцы прычоска, аслепнуць можна! — гаворыць Аня.

— Ой-ой! Звычайны аліўкавы алей табе ў гэту фарбу дабавілі. А ўсё з-за таго, што «масла алівы» — гучыць прыгажэй, ды і думак пра ўсякія салаты не ўзнікае. Вось у мяне шампунь з экстрактам кашміру ёсць! Гэта і сапраўды дзіўная рэч, — адказвае суседцы Каця.

— Ага, экстракт кашміру, вер ты больш напісанаму на этыкетцы. Я чытала, што ў такія шампуні дабаўляюць звычайны ланалін — воск, які атрымліваюць, калі прамываюць шэрсць авечак, — растлумачыла Аня.

Так спрачаліся дзяўчаты ні дзень, ні два, а цэлы тыдзень. Ні адна не хацела саступаць, прызнаць, што ў суседкі касметыка лепшая. Так бы прастаялі яны яшчэ невядома колькі, каб не пайшоў дождж. Тады паглядзелі Каця і Аня адна на адну і замерлі ад здзіўлення: касметыка ўся змылася вадой і адкрыліся сапраўдныя прыгожыя твары маладых дзяўчат, якія не патрабуюць ніякіх кашміраў, дзіўных экстрактаў і іншай хіміі».

— Хто-небудзь яшчэ будзе расказваць? — спытаў Кашчэй Бессмяротны.

— Нешта ў мяне няма настрою сёння казкі расказваць, я лепш вас паслухаю, — адказаў кот Баюн Барыс.

— Па праўдзе кажучы, я не спецыяліст у такіх апавяданнях, але калі сёння ў нас атрымаўся вечар рэкламных казак, то прыгадаю некаторыя рэкламныя назіранні, — сказаў Кашчэй.

«Кожная дзяўчына ў яркай сукенцы носіць з сабой у сумачцы кандыцыянер-апаласквальнік.

Галоўная праблема сучаснасці — перхаць.

У кожным супермаркеце дзяжурыць стаматолаг.

Пад абадком унітаза жывуць монстры і арганізоўваюць дэманстрацыі.

У кватэры можна не прыбірацца самому, дастаткова прагучаць мелодыі, каб з'явіўся мускулісты містэр, які хутка сам навядзе парадак.

Імунітэт — гэта камячок шэрсці, які бегае побач».

Калі Кашчэй Бессмяротны скончыў расказваць, слова ўзяў імяніннік:

— Дзякуй вам вялікі! Пацешылі вы мяне сёння. Я нават не ведаю, чыя казка лепшая. Таму прапаную наступнае: давайце правядзём другі тур конкурсу роўна праз год у мой наступны дзень нараджэння. Спадзяюся, ніхто не будзе супраць?

У адказ з усіх бакоў пачулася: «Згодныя!» І госці адправіліся дахаты, каб праз год вярнуцца з новымі казкамі.

**Наталля КУЛЬГАВАЯ.**



Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.

Вожык у Асобах

# Прыроджаны гумарыст

*Міхась (Міхаіл Міхайлавіч) ПЯНКРАТ (1918 – 2001) быў прыроджаны гумарыст. «Праўда, дайсці да ўсведамлення, што ты гумарыст, не так проста. Спярша будзе табе лезці ў галаву ўсялякая дробязь, і тады ты пачнеш пісаць вершы пра салаўёў і іншых птушак. Пасталееш – за прозу возьмешся...», – жартаўліва пісаў пісьменнік Мікола Ваданосаў у прадмове да кнігі гумару М. Пянкрата «Прынцыповы пасаг», намякаючы на папярэднія кнігі калегі: зборнікі вершаў «Салаўіны бераг», апавяданняў і аповесцей «Шчасце маё», «Ведрыцкія напевы», «Любоў у квадраце» і іншыя. Таму невыпадкова, займаючыся журналістыкай, Міхаіл Міхайлавіч трапіў на працу ў часопіс «Вожык», аддаў яму два дзясяткі сваіх гадоў жыцця. Праца ў часопісе вымушала не толькі смяшыць іншых, а, смеючыся, яшчэ змагацца з рознага кшталту прайдзісветамі, што знаходзіліся часам у грамадстве.*

*Пісаў фельетоны. А чытачу запомніўся па кнігах гумару «Палын і кветкі» (1958), «Не з таго канца» (1959), «Аўтарытэт на колах» (1968), «Прынцыповы пасаг» (1978) і інш.*

*Адзначаючы сёлета ў жніўні 95-годдзе з дня нараджэння Міхася Пянкрата, прыгадаем і некаторыя яго гумарыстычна-сатырычныя творы, што не згубілі сваёй актуальнасці і ў наш час.*


*Шарж Зіновія ПАЎЛОЎСКАГА, 1968 г.*


**Міхась ПЯНКРАТ**

## Бюракратычная карусель

Напісаў заяву Янка:
«Мне на дах патрэбна
дранка.
Мне б сасонку, сухастою...
Вам удзячны –
Я. Няўстроеў».

У куточку на заяве
Напісалі неўзабаве:
«Тав. Загнетка,
Вам на днях –
Паглядзець на Янкаў дах.
Што за дах? Ці ёсць
патрэба?
Мне дакласці –
М. Загрэба».

А ў наступным кабінеце –
Надпіс новы ў дакуменце:
«Тав. Засольны:
Неадкладна
Дакладзіце мне дакладна:
Ёсць у Янкі дах на хаце?
Тэрмінова –
Я. Падхваціч».

І яшчэ адным заходам
Напісалі мімаходам:
«Тав. Закруцін.
Правярайце,
Высвятляйце,
Асабіста дакладайце:
Хто у гэтым вінаваты,
І ці ёсць наогул хата?»

І пайшла заява ў свет –
З кабінета ў кабінет.
Даручалі, «правяралі»,
Ў доўгай скрынцы
не трымалі.
Рэзалюцый на заяве,
Нібы мух на ліпкай лаве,
Чорным, сінім і зялёным...
Як жа Янка? Дом ягоны?

Піша зноў заяву Янка:
«Мне цяпер не трэба
дранка.
Мне б на дом цяпер
бярвенцы –
Струхла хата, з ёю –
сенцы...
Папрасіў бы сухастою...
Вам удзячны –
Я. Няўстроеў».

У куточку на заяве –
Акуратна, неўзабаве:
«Тав. Загнетка,
Ўдакладняйце,
Што згніло у гэтай хаце?
Колькі лесу яму трэба?
Тэрмінова –
М. Загрэба».

І згніла без даху хата.
Хто ж у гэтым вінаваты?
Вінаваты ў гэтым дах!
Праз яго ж цякла вада!
Мог бы крышку
пратрымацца,
Новай дранкі дачакацца...

## Дзіцячаму пісьменніку

І для малодшых,
і старэйшых
Ён піша прозу, піша вершы:
Вавёрка, Заяц, Воўк і Кіт –
Адзін і той жа каларыт.
Шматыражна, мнагатлумна,
Малачытабельна і... сумна.

*«Прынцыповы пасаг»,
Мн., 1978 г.*

# Пазітыўная псіхалогія ад Аляксандра ПЯТРОВА
















«У цябе жонка добрая, а ты такі гультай, і ў каго ты ўдаўся?»

«У гэтым ёсць цікавы корань».

«Калі не выканаеце маё ўказанне, глядзіце на сябе!»

«Хто не памыляецца, той не працуе».

*(З выступленняў).*

«Праведзеная работа па прафілактыцы і выяўленні асоб, якія ўжываюць алкаголь у асяродку падлеткаў, дазволіла павысіць пярвічнае захворванне алкагалізмам сярод падлеткаў на 4,5 працэнта».

*(З даведкі).*



«Я апранаюся прыгожа, але асвятлення на вуліцы няма, таму ніхто не бачыць».

*(Са скаргі ў жыллёва-камунальны аддзел).*

«У шэрагі сацыяльна актыўнага насельніцтва смела ўліліся маладыя спецыялісты».

*(З газеты).*

«Па шматлікіх просьбах аўтара яшчэ раз друкуем матэрыял, які быў змешчаны раней».

*(З часопіса).*

«Мужчына на закаце сіл жадае пазнаёміцца з жанчынай у росквіце гадоў для шчаслівага сумеснага жыцця».

*(З аб'явы).*

«Мяне як спецыяліста цанілі, бо дзе б ні працаваў, адусюль добра праводзілі...»

*(З успамінаў).*

**Запісаў Міхась СЛІВА,**
*г. Рагачоў.*






*Смятанін... Якое сакавітае, «смачнае» прозвішча! Для дзіцячага пісьменніка – проста знаходка. Можна ўявіць сабе, як смакавалі гэта прозвішча на ўсе лады сябры Андрэя ад маленства і да студэнцкіх гадоў. Праўда, ён мог і «адпомсціць» трапным, дасціпным жартам. Невыпадкова ж запрасілі яго падчас вучобы ў Санкт-Пецярбургскім універсітэце эканомікі і фінансаў у Клуб вясёлых і знаходлівых. Далей усё пайшло «як у людзей»: ажаніўся, нарадзіліся два сыны. А потым, насуперак усім фінансава-эканамічным разлікам, Андрэй актыўна заняўся не вельмі прыбытковым цяпер «бізнесам» – літаратурай, дакладней, дзіцячымі вершамі. І гэта зразумела: побач жа гарэзілі натхніцелі-сыны! Цікава, што і вершы ў Смятаніна атрымліваюцца такія ж гарэзліва-вясёлыя, як і дзеці.*

*Цяпер Андрэй Смятанін – актыўны аўтар многіх вядомых дзіцячых выданняў, член саюзаў пісьменнікаў Расіі і Беларусі, лаўрэат шматлікіх расійскіх і міжнародных літаратурных конкурсаў. Мы рашылі іх не пералічваць, а лепш змясціць паболей вершаў, вартых, на наш погляд, самых шчырых усмешак чытачоў. Прыемна, што «вожыкаўскі» дэбют Андрэя адначасова стаў і першым перакладам яго твораў на беларускую мову.*

**Павел САКОВІЧ, член рэдкалегіі часопіса «Вожык».**



*На фотаздымку: Андрэй Смятанін і Павел Саковіч.*

**Андрэй СМЯТАНІН**

## ХАЧУ МАБІЛЬНІК!

### Электронны паштальён

Мару стаць я паштальёнам,
Ды не простым – электронным.
Усе пісьмы сабяру –
Разнясу на mail.ru.

### Вінаваты свін

Парася забралася ў салату.
Яго выгналі за гэта з хаты.
Дзверы ён лычом пакратаў:
«Я ж пароды гэткай...
СВІНАВАТАЙ...»



### Поўны сэрвіс

Стаяць у вітрыне
Канструктары горкай.
І ўсе прадаюцца
З дастаўкай
І... зборкай!

### Аўтобус-«гармонік»

Старэнькі, стамлёны,
Нязграбны, як слонік,
Па горадзе едзе
Аўтобус-«гармонік».
Паўзе па дарозе,
Людзей падбірае,
Вось толькі «гармонік»
Чамусьці не грае.
Не грае «гармонік»,
Прызнацца, дарэмна,
Бо з музыкай ехаць
Куды больш прыемна!



### Хачу мабільнік!

– Ты малы!
Кажуць тата і мама заўжды.
Я ж падкручваю
стрэлкі будзільніка.
Праз віниць як чатыры гады,
Патрабую ад іх...
Па мабільніку!

### Кароткі палёт

На арэлях я ў палёце,
Як пілот у самалёце.
Я б і тыдзень з іх не злазіў:
Ну, тры дні, ва ўсякім разе.
Толькі тата кажа:
– Коля,
Паўгадзіны – і не болей!

**Пераклад з рускай мовы Паўла САКОВІЧА.**

*Шлях да сэрца мужчыны ляжыць праз яго страўнік, але ёсць жанчыны, якія ведаюць больш кароткі шлях.*

Жак Таці
(французскі акцёр, рэжысёр)

*Калі б дзеці раслі ў адпаведнасці з нашымі спадзяваннямі, у нас выраслі б толькі геніі.*

Іаган Гётэ
(нямецкі пісьменнік, вучоны)




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Аляксандра ШМІДТА.



Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.



Малюнак Юрыя МІХАЙЛАВА.




## Кватэру праваронілі

– Чула, твой Сцяпанка ў суперлато мільён выйграў? Во радасці!

– Чаму тут радавацца?! Каб два білеты купіў, маглі б і кватэру ў Мінску займець. Праваронілі такую ўдачу!

## Пасляшыў

Муж моцна хварэе. На ўсялякі выпадак просіць у жонкі прабачэння:

– Даруй, галубка, я табе восем разоў здрадзіў.

Жонка:

– Не хвалюйся! Я табе – дзевяць...

## Манюка

– Сымон, – пытае сусед, – чуў, што твая дачка Арына замуж выйшла за Цыбулькіна з Загалля? Ён жа пяць разоў жаніўся.

– Во манюка, а гаварыў, што толькі чатыры!

## На радасць мужу

Жонка – мужу:

– Што б ты зрабіў, калі б нам у кватэру грошы прывалілі?

Муж (жартам):

– Футра табе купіў бы.

Жонка:

– Тады радуйся! Я пазыку ўзяла і сама футра купіла.

## Каб дзве...

– Кажуць, твой Іванка з Расіі з заробкаў на машыне шыкоўнай вярнуўся? Багатымі сталі.

– Якое багацце! Дачкі дзве, а машына – адна.

**Даслаў Віктар ЛОЎГАЧ,**
*Гомельская вобласць,*
*г. п. Акцябрскі.*




**Васіль ФЕРАНЦ**




# Інструктаж

## Гумарэска

Сынок Альберта Дубовіка шасцігадовы Данілка збіраўся ў школу, у першы клас. Зрэшты, не столькі Данілка, як сам бацька. Яму трэба было купіць усё неабходнае для сына, а таксама даць розныя настаўленні, слушныя парады, падзяліцца, так бы мовіць, сваім школьным вопытам.

– Дык ты ж будзеш старацца, будзеш добра вучыцца? – дапытваўся ён у сына.

– Буду... – ківаў той галавою.

– А сваволіць? Займацца шкодніцтвам на ўроках ці падчас перапынку?

– А якімі?

– О-о, тут столькі ўсяго можна... Напрыклад, пусціць на ўроку па класе папяровы самалёцік.

– А як яго рабіць? – Данілка прыкметна ажывіўся.

– А вось як, глядзі, – бацька спрытна склаў з лістка паперы невялікі самалёцік і запусціў яго па пакоі. Самалёцік доўга кружыўся ў паветры і плаўна апусціўся пад шафу. – Вось так... Дык глядзі ж, Данілка, не рабі так у школе! А то, бывае, свавольнікі-вучні запэцкаюць класную дошку нечым тлустым са школьнага сняданку, настаўнік хоча нешта напісаць, а крэйда слізгае, не піша. Ці прыб'юць цвіком анучку для выцірання дошкі... Не надумайся хоць кнопкі вастрыём уверх падкладваць вучням, а тым больш настаўніку на крэсла!

– А яшчэ што нельга рабіць? – у вачах Данілкі засвяцілася цікавасць, і задаволены бацька падумаў: «Усё ж даходзіць да сына навука...»

– Многа ўсякага... Некаторыя могуць мыш прынесці ў клас або ў пенал дзяўчынцы жука падкласці. Піску потым!.. Могуць страляць мокрымі папяровымі камячкамі, моцна дзьмухнуўшы ў трубачку з паперы. Могуць таксама выпусціць у класе вераб'я ці іншую птушку – тады ўрок, лічы, сарваны... А то яшчэ дымавуху запусцяць.

– Дымавуху? Як яе робяць?

– Ну, гэта проста...

Бацька ўзяў грабеньчык, якім Данілкава бабуля расчэсвала валасы, загарнуў у паперчыну, падпаліў – і пакой увачавідкі напоўніўся дымам...

– Можна ў які іншы матэрыял загарнуць, галоўнае – каб ён добра гарэў. Толькі не надумайся так зрабіць у школе!

...І вось наступіла першае верасня.

– Табе бацька казаў, як паводзіць сябе ў школе? – спытаў Данілка сябрука Сашку.

– Не, нічога не гаварыў...

– А мне мой усё растлумачыў. Я да школы на ўсе сто падрыхтаваны! – пахваліўся Данілка і патрос пачкам з кнопкамі. – У ранцы ёсць змочаная алеем анучка, я яе ў цэлафан загарнуў пакуль што. І маленькія цвікі... Шкада, жука не знайшоў, каб падкласці якой дзяўчынцы ў пенал. Або мышы. А на самалёцікі нарвём лістоў са сшытка ці з кнігі...






Малюнак Уладзіміра ЧУГЛАЗАВА.




Малюнак Міколы ГІРГЕЛЯ.




Малюнак Алега ГУЦОЛА.



Малюнак Аляксандра КАРШАКЕВІЧА,
тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

**Базыль ХІЗАВЕЦ**

## БАЦЬКАВА НАВУКА



Бацька ушчуваў Міколу:
– Дзе ты, неслух, лынды біў?
Мне ж сказалі, што у школу
Цэлы тыдзень не хадзіў!
Дзе, хутчэй адказвай, лазіў?
Хто цябе так мог прыгрэць?
Гэтак ты і ў шостым класе
Будзеш два гады сядзець...
– Што мне ваша тая школа?!
Проста злосці нестае, –
Агрызаецца Мікола. –
Пражыву і без яе.
Вунь, глядзі, амерыканцы
На вучобу дык плююць –
Ледзьве могуць распісацца,
А жывуць, ды як жывуць!
Бацька сыну прачуханца
Дзяжкай добранька ўваліў...
З таго дня «амерыканца»
Нібы хтосьці падмяніў.




Кантрольная. Настаўнік уважліва сочыць за вучнямі і час ад часу выганяе тых, у каго заўважыў шпаргалкі.

У клас заглядвае завуч:

– Што, кантрольную пішам? Тут, напэўна, шмат аматараў паспісваць!

Настаўнік адказвае:

– Не, аматары – ужо за дзвярамі. Тут засталіся толькі прафесіяналы.



– Ну, Пеця, калі ты ходзіш у школу, скажы, колькі будзе два ў два? – пытае цётка.

– Чатыры.

– Правільна. Вось табе чатыры цукеркі.

– Эх, калі б ведаў, то сказаў бы шаснаццаць! – засмуціўся Пеця.



Экзамен па англійскай мове.

– Take a ticket, please. What is your number?

– Намбэ... гэта... нам бы чацвёрачку...

# Эпіграмы

## Павел САКОВІЧ

### Пятро Радзечка



Без шуму-пылу і зазнайства
Ён раскруціў Сяргее-знаўства.
Пятро дакажа, спадзяюся,
Што і Ясенін – з Беларусі!

### Васіль Найдзін



Хоць прозвішча
у Васіля Найдзін,
Такога, браце,
паспрабуй знайдзі.
І ў нашым «Вожыку» –
чытай, глядзі –
Найдзін, канешне,
усяго адзін!

### Сяргей Давідовіч



Ён мастаком бы добрым стаў,
Ды дзе набрацца грошай, браце?
На фарбы – ганарар аддаў,
А валасы... на пэндзлі траціў?

### Аляксандр Каршакевіч



Не спалохаеш яго
Ні дубцом, ні нажыкам:
На крыўдзіцеля свайго
«Нацкуе» ён... «Вожыка».

Не сумуе разам з ім
Наш мастак ніколечкі.
Апранаецца прытым
Ён заўжды – з іголачкі!

## Міхась САЗОНЧЫК

### Яўген Хвалей



Сёння ў «Вожыку» Хвалей
П'е нагбом хвалы ялей.
Жарт і справу разумей –
Пі нагбом так і далей...

*Нясвіжскі раён,*
*г. п. Гарадзея.*

## Янусь МАЛЕЦ

### Анатоль Зэкаў




Ён і лірык адмысловы,
І сатырык ганаровы,
Парадыст і гумарыст,
Не адзін счарніліў ліст,
Мно-о-ства твораў напурзэкаў
Анатоль вядомы – Зэкаў!

### Уладзімір Ермалаеў



Вось так на свеце і бывае:
Якісь прыходзіць Ермалаеў
І так шчыруе ў творчым лесе,
Што доўга шум чуваць у прэсе!

*Сяброўскія шаржы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА, Алега КАРПОВІЧА.*




Лёс мастака – пісаць чужыя лёсы.

Ажаніцца можна і моўчкі, а вось з жонкаю маўчаць не атрымаецца.



Лепшая карціна – гэта чалавечы твар.

Сарамлівы чалавек баіцца не людзей, а таго, што людзі пра яго падумаюць.

Чалавек, які ведае сабе цану, іншых не ацэньвае.



Я спрачаюся толькі з тым, хто пагадзіўся са мной.

У прыгожы твар хочацца глядзецца, нібы ў люстэрка.



**Даслаў Васіль ДЗЯМБІЦКІ,**
*Талачынскі раён,*
*в. Звенячы.*




## КОТ-ПЛЯТКАР

Навіну ўжо з хаты ў хату
«Тэлеграфам» хтось паслаў:
Дзед Антось сабраўся ў сваты,
Нават кветак назбіраў.

Кажуць, добрую кабету
Едзе сватаць корч стары.
І гуляе плётка гэта
Ўжо па кожным па двары.

Мо і зніклі б чуткі ціха,
Каб не хітры дзедаў кот:
Адшукаў ён дзеду ліха
Недалёка — цераз плот.

Частавала не аднойчы
Там суседка малачком.
Вуркатаў ёй кот да ночы,
А пасля — назад цішком...

Лыпаў жаласна вачыма:
Мабыць, грэшна ўжо так жыць?
І рашыў мурлыка чынны:
Трэба дзеда ажаніць!

Зранку вестку з хаты ў хату
Запусціў зноў дзедаў кот:
Дзед Антось не едзе ў сваты —
Ён палезе цераз плот!..

**Вольга САКАЛОВА,**
*г. Мінск.*

**Сяргей ЛАПЦЁНАК**

## КАЛІ ЛАСКА, ДАРАГІ...

*З натуры*



Кастусь быў у Ірыны. У палюбоўніцы. Гэ-эх, якая гэта жанчына! Цудоўная, непаўторная! Сапраўдная каралева!.. Яны, кажучы словамі бравага салдата Швейка, «міла забаўляліся», калі ў прыхожай пачуўся званок у дзверы. Потым другі, трэці...

«Муж!» — схамянулася Ірка. Вочы яе спалохана пашырыліся. Кастусь таксама зніякавеў. Васіль хлопец такі — да аднаго лічыць не будзе... Вось дык забаўкі! Але Ірына — вось гэта вытрымка! — ужо рашуча звузіла вочы. «Апранайся хутчэй! Я зараз...» — накінула хатні халацік і, зашпільваючы гузікі, кінулася да дзвярэй.

Стойваючы дыханне, Кастусь ліхаманкава нацягваў на сябе бялізну, кашулю, штаны... Вось адчыніўся замок, прывітаўся Васіль, гучна цмокнула мужа Ірка. «Ну, цяпер усё! — падумаў Кастусь. — Прывітанне, Вася! Ці што?..» І раптам пачуў: «Калі ласка, дарагі, выкінь смецце. Затуркалася каля пліты, забылася, прабач...»

Грукнулі дзверы за Васілём. Смеццеправода ў іх доме няма. Жывуць Васіль з Ірынай у першым пад'ездзе, а кантэйнеры для смецця стаяць насупраць апошняга, восьмага. Цяпер сапраўды ўсё! Пакуль Васіль сцягаецца туды ды назад, Кастусь паспее выскачыць з кватэры і схавацца на лесвіцы на пару паверхаў вышэй. Пацалаваўшы Ірку на развітанне, Кастусь праслізнуў за дзверы...

Праз колькі часу ён павольна падыходзіў да свайго жытла. «Ну што за разумніца Ірка! Вось дык жанчына!» — у каторы раз думаў з захапленнем. Па лесвіцы падняўся на свой паверх, націснуў кнопку званка. Раз, другі, трэці... Дзверы адчыніла жонка Ленка ў хатнім халаціку.

— Прывітанне, — буркнуў Кастусь.

Алена абхапіла мужа за шыю, прыціснулася да яго, адпусціла. Вінавата-какетліва паглядзела спадылба, апусціла вейкі:

— Прабач... Закруцілася штосьці сёння, смецце не паспела выкінуць. Калі ласка, дарагі...

Смеццеправода ў іх доме няма. Жывуць Кастусь з Аленай у восьмым пад'ездзе, а кантэйнеры для смецця стаяць насупраць першага.

Кастусь цягнуўся з вядром смецця і сумна думаў: «Вось Ірына разумніца! Вось гэта жанчына! А мая, дурніца, нават смецце за дзень выкінуць не здагадалася!..»

*г. Мінск.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.

## ВЕСЯЛІНКІ

Хоць у даўгі вяпрук улез —
Набыў сабе ён «мерседэс».
Нядоўга ездзіў наш нябога —
У лесе дрэў было замнога...



Ён, узлязеўшы на Парнас,
Глядзіць: кудысьці збег Пегас.
А без Пегаса на Парнасе,
Як без настаўніка у класе.



Пакуль зайчыха выпівала,
З ёй уся пушча сябравала,
Таму, што больш чым выпіваць,
Яна любіла частаваць!

**Уладзімір ШПАДАРУК,**
*г. Рагачоў.*






Алесь КОЗЕЛ

# «Настаяшчыя мужыкі»

*З натуры*



Кастусь збіраўся капаць яму пад фундамент. Не, не для дома. Дом у яго быў — прыгожы, побач з лесам. Вялікі, у два паверхі, з гаражом і ўсім астатнім, што магло спатрэбіцца. Таму і плот павінен быць цагляны. А цагляны без фундаменту стаяць не будзе: паваліцца.

Тут якраз двух хлопцаў прынесла на трактары з каўшом. І яны адразу пацікавіліся, ці не патрэбны Кастусю два старыя слупы на дровы? Відаць, дзесьці мянялі драўляныя слупы на бетонныя, вось хлопцы і разжыліся.

Слупы былі добрыя, сухія, аж сякера са звонам адскоквала. Хлопцы ахвотна тое прадэманстравалі, раз-пораз паўтараючы: «Мы — мужыкі настаяшчыя, глупствам не займаемся». Але паколькі гэта ўсё ж не цягнула на пляшку гарэлкі, то яны прапанавалі яшчэ якую-небудзь дапамогу.

Вось тут Кастусю і прыйшла ў галаву ідэя: яма пад фундамент. Трактар жа з каўшом — усяго нейкая гадзіна работы. У хлопцаў радасна заблішчэлі вочы. Яны, напусціўшы важны выгляд, пачалі тлумачыць, што «настаяшчыя мужыкі» з-за адной пляшкі нават пэцкацца не будуць. Ясная справа, адной пляшкі тут мала. А калі Кастусь ляпнуў: «Два літры!», то трактар зароў, як шалёны, а коўш аж замільгаў...

І гадзіна не прайшла, як справа была скончана. Кастусь, радасна пацiраючы рукі, рушыў да хлопцаў. Яны стаялі каля заглушанага трактара і з нецярпеннем чакалі, калі адбудзецца разлік. Раптам адзін з іх асеўшым голасам выгукнуў: «Жонка!»

Кастусь азірнуўся. У бок яго дома вельмі рашуча крочыла жанчына, жонка аднаго з «настаяшчых мужыкоў». А тых за гэты момант нібы карова языком злізала. Кастусь ледзь паспеў заўважыць, як яны паўзуць у пералеску, смешна бліскаючы зашмальцаванымі порткамі, выразна паказваючы, чым адрозніваюцца «настаяшчыя мужыкі» ад сапраўдных.

Размова з жанчынай склалася нецікавая. Ёсць такія кабеты, у якіх вінаваты ўсе навокал. Сябры, суседзі, сваякі, нават вецер, што дзьме не туды. Некалькі разоў крыкнуўшы: «Дзе гэты?», яна даследавала трактар і мясцовасць навокал. Але далей праводзіць «следства» не рызыкнула. Кастусь быў нармальным мужчынам і не збіраўся трымаць справаздачу перад чужой жонкай, а кінуў на развітанне параду, што лепш ісці дадому, чым кацiцца. Трохі пабурчаўшы, кабета знікла з вачэй.

Хлопцы вярнуліся прыцемкамі, цішком. Кастусь аддаў ім гарэлку. Спытаўся, ці не патрэбна што-небудзь яшчэ, маючы на ўвазе закуску. Яны адказалі, што ў іх усё ёсць, відаць, маючы на ўвазе шклянку, і зніклі ў цемры. Кастусь толькі здзіўлена падумаў: «Ну, можна схавацца і цішком выпіць гарэлку. Ды як схаваць пах і перагар ад той гарэлкі?» Але, відаць, у «настаяшчых мужыкоў» ёсць свае «настаяшчыя» сакрэты!






Малюнкі Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА, тэмы Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.

## ХАЛЕСТЭРЫН



У вёсцы – гарадскія дзеці.
Гаворыць Юлька: «Дзед Мартын,
Не трэба масла, салка есці,
Бо там адзін халестэрын.
А ён здароўе падрывае:
На памяць дрэнна уплывае».
«З табой, унучка, згодзен цалкам, –
З усмешкай прызнаецца дзед. –
Калі паем я ўранні салка,
То забываю пра абед».

**Віктар РЭЧЫЦ,**
*г. Івацэвічы.*




Малюнак Вікенція ПУЗАНКЕВІЧА,
тэма Аляксандра КАРШАКЕВІЧА.




Малюнак Алега КАРПОВІЧА.

*Адзін розум – добра, а два – не дазволена па штатным раскладзе.*

Анатоль Рас (расійскі літаратар)

## Ганад ЧАРКАЗЯН

### ГЭТЫ НОВАЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

• Сорам – крытэрый маральнасці, сяму-таму дадзены пажыццёва. Некаторыя згубілі яго назаўсёды, іншыя яшчэ не набылі.

• Плёткі – праўда, але перададзеная пэўным чынам.

• Вагі – гандлёвы інструмент, што страціў былое сумленне.

• Суседства – складаныя чалавечыя адносіны, дзе межы да гэтага часу не вызначаны.

• Загадка – сярэдні арыфметычны адказ бюракрата на адно і тое ж пытанне розных грамадзян.

• Мыш – намеснік загадчыка склада па спісанні матэрыялаў.

• Вада – самае жыццёнеабходнае рэчыва. Вось чаму Зямля на дзве трэці, піва на дзевяць дзясятых і суп у сталовай на дзесяць адзінаццатых складаюцца з вады.

• Гарэлка – рухавік унутранага згарання.

• Дзённік – рэгулятар узаемаадносін паміж бацькамі і дзецьмі.

## Павел САКОВІЧ

### ГЭТЫ МАЛА ЛАГІЧНЫ СЛОЎНІК

• Персона нон граната – абяззброены шпіён.

• Самагон – перпетуум-мобіле.

• Галадранец – рабаўнік.

• Верашчака – спявачка.

• Відэакамера – турэмнае дзвярное вочка.

• Пагонны метр – адзінка вымярэння генеральскіх пагон і нашывак.

• Ансамбль камернай музыкі – калектыў турэмнай мастацкай самадзейнасці.

• Сталетнік – доўгажыхар.

• Крытыны – жыхары вострава Крыт.

Ірына ДЭЙ




# Як мы Люсьцы сукенку куплялі

*Маналог*

«На мінулым тыдні мы з Люськай, жонкай маёй, у магазін пайшлі: сукенку ёй купляць. Не люблю я гэтую справу, бо разбіраюся ў тых люрэксах і дэнах, як жонка – у развале-сыходжанні. Але што зробіш, калі Люська страшэнна любіць па ўнівермагах швэндацца. Апошні раз, калі кофту мерала, прадаўшчыцу на «хуткай» забралі. Люська ў яе ўсё дабівалася, які працэнт рызыкі таго, што кветачкі на кофце пасля эксплуатацыі вырабу не звянуць. А потым слядочкі сабе купіла і пайшла задаволеная дамоў. У яе тых слядкоў – цэлая шуфляда, затое дзень не дарма пражыты...

Прыйшлі мы ў магазін. Я Люську ў той бок, дзе айчынныя тавары вісяць, непрыкметна так штурхаю. Усё адно яна тую сукенку толькі пару разоў апране, пакуль Зойка, сяброўка яе заклятая, у госці не завітае. Тая абноўку абгледзіць, прымусіць апрануць і салодзенька так запяе: «Рэч – адпад! А што, твайго памеру ўжо не было?» Але сёння Люська ці то абодва туфлі правыя абула, ці што, але настойліва паварочвае да замежнага адзення, дзе я, мяркуючы па фірменных назвах, толькі бірку з цаной і змагу купіць. І тое ў крэдыт.

Прадаўшчыца адразу падбегла: чым дапамагчы, што прапанаваць? Люська шчыра прызналася: будзем на працы начальніцу на заслужаны адпачынак праводзіць. Хачу, кажа, шаноўнай Галіне Восіпаўне сваім гардэробам апошні раз настрой сапсаваць. Пакуль што лік нічыйны 50:50. Прадаўшчыца адразу ўсё зразумела, ахапак сукенак прыпёрла. Жонка – шась у прымерачную і прыціхла.

Нарэшце выйшла. Людзі добрыя, дзе тут перад, дзе тут зад? І, галоўнае, як Люсьцы давесці, што ёй сукенка памераў на пяць большая трэба. Жонка ў мяне і ў часы дэфіцыту ад ветру не хісталася, а зараз і наогул. Ды паспрабуй што наконт прапорцый ляпнуць – яна мяне ж першага на катлеты з морквы перавядзе! Не, адносна прапорцый лепш не рызыкаваць.

Паветра набіраю і выпальваю: а што гэта колер нейкі нямодны? У нас на працы ў Савелія Карлавіча такая кашуля была. І прадаўшчыцы сурдарухі ў жонкі за спінай раблю. А тая – сваё: сукеначка цудоўненькая, толькі памерам большая трэба, каб дыхаць можна было. Гляджу, у Люські вочы зрабіліся, як у кошкі. Як піць даць прапалі мае грошыкі! Нізавошта не здыме.

Я паміж жанчынамі на ўсялякі выпадак прасунуўся і кажу: нам штонебудзь менш эксклюзіўнае. Каб без гарсэту на каленях. Мая на мяне цыкае, каб схаваўся. Але, сапраўды, да іншай сукенкі рукі пацягнула. Ну, не дарма мне сёння снілася, што Карлавіч на новую кашулю грошы пазычае. Да растраты гэта.

А сукенка быццам бы і нічога, толькі надта маркая: непрактычна. Я Люську апошні раз на нечым вяселлі ў белым бачыў. Ага, на нашым. Тую яшчэ сукенку, кажу, не знасіла, у шафе вісіць. А жонка ўпёрлася, як у першую шлюбную ноч – бяром. Ну, ні табе Карлавічу кашулі, ні мне новых амартызатараў. Дзякуй прадаўшчыцы, цану сказала. У мяне аж сківіцы звяло! У эквіваленце: тэлевізар новы, Карлавічу – кашуля, сыну – набор «Юны піратэхнік», цешчы – чамадан, а мне – пляшка. Люська, відаць, таксама Карлавіча пашкадавала, бо хуценька распранацца пачала.

Я ў пошуках паратунку па баках азіраюся, бачу: на манекене сціпленькая такая сукеначка вісіць, чорненькая. Можа, хоць гэтая не ад Кардэна... Люська, крычу, сюды глядзі. Раптам з прадаўшчыцай нешта зрабілася. То стаяла, як Джаконда, усміхалася, а то як кінецца да сукенкі і як зараве: «Мая!» Люська на сябе цягне, прадаўшчыца не пускае, абцасікамі ў падлогу ўпіраецца. Але шанцаў супроць маёй Люські, мякка кажучы, малавата. Зараз мануфактура парвецца... Крычу: ратуйцеся, дзяўчаты, нехта на гарачую лінію патэлефанаваў. Ужо і карэспандэнты прыехалі паглядзець, як тут з пакупнікамі абыходзяцца. Прадаўшчыца сукенку адпусціла, прычоску паправіла і заспявала: ах, сукеначку вам? Калі ласка, хадземце да касы. Мая нават мераць не стала, адразу да мяне: «Давай грошы!»

Прыйшлі мы дадому, глянуў я на Люську ў абноўцы: а прыгожая ў мяне ўсё-ткі жонка. Дык вось што я вам, мужчыны, скажу: не шкадуйце грошай жонкам на гардэроб. Эканомце нервовыя клеткі, а не грошы!..»

*г. Мінск.*




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




**Таццяна ЖУКОЎСКАЯ**

# Чаму Ліса рыжай стала

*Казка*

У даўнія часы лісінае футра было шэрым. А вось хвост і тады быў прыгожым і пушыстым. Ды і хітрасці на дзясятак зайцоў хапала! Ліса лавіла мышэй, спусташала птушыныя гнёзды. Летам кармілася жукамі і іншымі насякомымі. Пасля дажджоў яна ўпісвала дажджавых чарвякоў. А калі Лісіца сялілася непадалёк ад ракі, дык і рыбкай ласавалася. Так і жыла.

Аднойчы летнім спякотным днём зайшла Лісічка ў лясную глуш, выцягнулася ў цяньку ды адпачывае ад гарачага сонейка. Раптам чуе: нешта па лесе трашчыць, нехта непадалёк сапіць. Ускочыла яна і на шум падалася.

Выйшла на паляну. Бачыць – кустоў вельмі многа, а на іх – чырвоныя пацеркі вісяць. Мядзведзь гэтыя пацеркі зрывае ды ў рот сабе кладзе. І такі водар навокал! Закруцілася ў Лісічкі галава.

– Добры дзень, касалапы! Добры дзень, лясны гаспадар! Што за каралі ты смакуеш?

– Хітрая ты, ліса, а не ведаеш, што гэта не каралі, а – ягада-маліна! Сакавітая ды салодкая, сама ў рот просіцца.

– А можна і мне пакаштаваць?

– Каштуй!

Паспытала Ліса маліны, і так яна ёй спадабалася! Духмяная, сакавітая, салодкая! Сапраўды, сама ў рот просіцца. Ела Ліса маліну ўвесь дзень. Мядзведзь даўно пайшоў. Вечар настаў. Жывот у Лісы раздзьмуўся, сама ледзьве дыхае. Так і заснула пад кустамі маліны...

Раніцай прачнулася Ліса, пацягнулася, паглядзела на маліну, але есці не стала. Вельмі ж учора аб’елася. Пайшла да ракі мыцца.

Памылася, прысела на сонейку сохнуць. Ідзе міма Мядзведзь. Убачыў Лісу і кажа:

– Лісіца-хтрыца! Ды ў цябе ж футра чырвона-рыжае!

З таго часу, як Ліса малінамі аб’елася, і змяніўся колер яе футра.

*г. Мінск.*



**Расціслаў БЕНЗЯРУК**

# Дзівакі

Кажуць, ранкам па расе
Дзед Яўсей гусей пасе.
Не пасе, а спіць Яўсей –
Гусі ўсе даўно ў аўсе.
Прачынаецца пастух,
Каб сагнаць гусей на луг.

А яго сусед Яўмен
З крамы прыцягнуў бязмен.
Хоча зважыць куль мукі:
Ці не з’елі пацукі?
Пераважыў на бязмен.
Рад Яўмен: мука без змен.

Трэці – дзед-дзівак Алесь
Ходзіць з вудай часта ў лес.
А чаму не да ракі,
Дзе жыруюць шчупакі?
Проста верыцца Алесю,
Што яму ўдасца ў лесе
На кручок злавіць дзіка,
Барсука альбо ваўка.

Ёсць пытанне ў хлапчукоў:
«Дзе знайсці такіх дзядкоў?»
У пасёлках, гарадах,
На далёкіх хутарах,
Там, дзе леглі бальшакі,
Каля мора, ля ракі...
Ёсць такія дзівакі!

*г. Жабінка.*









Малюнак Паўла ГАРАДЦОВА.

# ПАЦЕШКІ

Белыя вакол званочкі.
Заблішчалі ў Юлькі вочкі,
Стала ручкамі кранаць,
Ды званочкі не звіняць...
Свет спасцігне пакрысе:
Больш за ландыш не трасе.



Што за мышка на градзе?
Не бяжыць і не ідзе.
Прыгледзеўся Кастусёк –
То ж хвастаты... агурок!





Каля сцежкі хтось шапоча,
Штось сказаць нібыта хоча.
Здзіўленыя ў Мішкі вочкі:
Гэта ж шэпчуць каласочкі!



Васілінка моцна плача:
– Верабейка скача й скача,
Я за ім не паспяваю,
Крыльцаў гэтакіх не маю.





Плешча, плешча Ната ў ладкі:
Пірагі пячэ, аладкі...
А яны каб удаліся,
Ў ладкі пляскаць не ляніся.





Яна – добрая кухарка:
Суп гатуе лялькам шпарка.
Пазрывала усе кветкі –
Суп пахучы будзе гэткі!

**Вольга ЛАБАЖЭВІЧ,**
*г. Клецк.*



Малюнак Алега ПАПОВА.




У сям'і чакаюць прыбаўленне. Ліза (5 гадоў) пытаецца ў мамы:

– А чаму гэта ў цябе жывот расце і расце?

– Ела кавун, праглынула семачку, зараз у мяне ў жываце расце новы кавун! – адказвае маці.

Ліза прыплюшчвае вочы і ўпірае рукі ў бокі:

– А ці не цяжарная ты, галубка?

* * *

Сыну 2 гады 6 месяцаў. Прывёз яго на прышчэпку ў дзіцячую бальніцу. Сядзім, чакаем. Раптам сын паварочваецца да мяне і кажа:

– Я цябе пакуль у машыне пачакаю, добра?!

* * *

Вяртаемся з шоу феерверкаў. Сын (3 гады 6 месяцаў) усё прадстаўленне сядзеў, як зачараваны. У машыне прарвала. Абдымае мяне з задняга сядзення за шыю:

– Матуля, я такі шчаслівы! Дзякуй, што ты мяне нарадзіла.



# Навіны з МУС: матай на вус...

## Нервовыя «выбухі»

*Якія людзі нервовыя вакол трапляюцца! Зразумела, у час высокіх тэхналогій, прагрэсу, бесперапыннага руху і незразумелай беганіны кожны можа не вытрымаць і «ўзарвацца». Але наступствы такога «выбуху» могуць быць вельмі рознымі. Гэта яскрава пацвярджаюць прыклады нашага рэйтынгу.*

«Ганаровае» трэцяе месца займае 23-гадовы жыхар Гродна, які, мабыць, так намучыўся са сваім нервовым станам, што ўжо і сэрца пачало аб сабе нагадваць, і сон парушыўся. Таму, каб як мага хутчэй пазбавіцца ад усіх гэтых сімптомаў, хлопец зайшоў у аптэку па вуліцы Янкі Купалы. Там ён вырашыў не марнаваць час на набыццё медпрэпаратаў і сам узяў з вітрыны флакон карвалолу і некалькі пачак фіта-чаю. Ну, а затым кінуўся наўцёкі. Але неўзабаве быў затрыманы міліцыянерамі. Здаецца, нерваў за час следства хлопец страціць яшчэ больш.

Другое месца прысуджаецца 26-гадоваму мінчаніну, які ўчыніў пагром у клубе ігравых аўтаматаў па вуліцы Чкалава. Прагуляўшы ўсе свае грошы «аднарукаму бандыту», хлопец так разнерваваўся, што пачаў ламаць і крышыць усё, што было ў памяшканні. Але гэтага яму здалося мала. Калі супрацоўнікіігравога клуба ўзяліся супакойваць мінчаніна, той схапіў нож і пачаў кідацца на іх. На шчасце, пацярпелых не было, бо нарад міліцыі, які хутка прыехаў на месца здарэння, затрымаў дэбашыра...

Можа, цяпер мінчанін навучыцца кантраляваць свае нервы і эмоцыі?

«Пераможцам» становіцца таксама мінчанін. Звычайна з-за празмернай, агрэсіўнай нервовасці больш пакутуюць акружаючыя людзі, чым сам бузацёр. Але так бывае не заўсёды.

Так, аднаго жыхара Мінска выводзіў з сябе гук машыннай сігналізацыі. А калі яшчэ ў крыві блукала гарэлка, то ён увогуле не мог сябе кантраляваць. Вось і нядаўна ўвечары, пачуўшы нервуючыя гукі, выбег у двор і пачаў біць і ламаць машыны, шукаючы «гаманкую віноўніцу». Калі хлопец «паастыў», то ўбачыў, што пад гарачую руку трапіў і яго ўласны аўтамабіль.

Што ж, і сам сябе пакараў, і пасля следства атрымае па заслугах.

***Па матэрыялах Упраўлення інфармацыі і грамадскіх сувязей Міністэрства ўнутраных спраў.***




Малюнак Алега ГУЦОЛА.




Малюнак Пятра КОЗІЧА.




Малюнак Міхася ДАНІЛЕНКІ, тэма Міхася СТЭФАНЕНКІ.














### *Павел ГАРАДЦОЎ*

## Вучыцца і вучыць

*З'явіўся на свет 17 верасня 1979 года ў Мінску, каб вучыцца і вучыць. Акрамя сярэдняй школы, скончыў сталічную мастацкую школу №1, Мінскае мастацкае вучылішча імя А. К. Глебава і Акадэмію мастацтваў (аддзяленне станковага жывапісу).*

*Павел паспявае і карыкатуру намаляваць, і ў паход з сябрамі і роднымі схадзіць, і на рынгу ці татамі перамагчы. Працуе мастацкім рэдактарам выдавецтва «Пачатковая школа», дапамагае юным чытачам быць дапытлівымі і дасціпнымі.*








Малюнак Луіса ПОЛА *(Аўстралія)*.



Малюнак Бахрама АРДЖОМАНДНІ *(Іран)*.



Малюнак Дачуана КСІЯ *(Кітай)*.



Малюнак Горана МІЛЕНКОВІЧА *(Сербія)*.

ІМПАРТ

# Галаваломка




Калі вы правільна ўпішаце прапушчаныя словы з прыказак па гарызанталі, то ў выдзеленых клетках па вертыкалі зможаце прачытаць слова, якое абазначае абгарэлы кусок дрэва. Як у народзе кажуць, адна ... і ў печы гасне, а дзве і ў полі гараць.

**1.** На Белай Русі пчолы, як ..., рэзгінамі мёд носяць.
**2.** З твару яйка, а ў сярэдзіне – ...
**3.** ... спіць і курэй бачыць.
**4.** Жыве кот і сабака, ды ... не аднака.
**5.** Ні калёс, ні атос, і ... кабылу панёс.
**6.** Бог дасць, але ў ... не загоніць.
**7.** Будзе ... і на нашай вуліцы.
**8.** Бывала, варона лапці абувала, а цяпер ... ходзіць так.
**9.** Смачны жабе ..., ды зубоў Бог не даў.

**Склаў Лявон ЦЕЛЕШ,**
*г. Дзяржынск.*

**Адгадкі:**
**1.** Гусі. **2.** Баўтун. **3.** Ліса. **4.** Жытка. **5.** Воўк. **6.** Хлеў. **7.** Кірмаш. **8.** Грак. **9.** Арэх. Выдзеленае слова: **галавешка.**

– Слухай, Коля, калі б ты пазнаёміўся з Хатабычам, якое сваё жаданне папрасіў бы выканаць?
– Я папрасіў бы зрабіць Лондан сталіцай Францыі.
– Чаму?
– Бо я так учора адказаў на ўроку геаграфіі і атрымаў двойку!..




– Малайчына, Міця! – хваліць бацька сына. – Як жа ты змог атрымаць дзясятку па заалогіі?
– А ў мяне спыталі, колькі ног у страуса. Я адказаў, што тры.
– Чакай, у страуса ж дзве нагі!
– Але ўсе ў класе адказалі, што чатыры!..


**Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда»**

**«Вожык» – грамадска-палітычны, літаратурна-мастацкі часопіс**

№ 8 (1499), 2013 год.

*Выдаецца з ліпеня 1941 года.*
*Часопіс «Вожык» зарэгістраваны ў Міністэрстве інфармацыі РБ. Рэгістрацыйны № 520.*

Заснавальнікі – Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

Галоўны рэдактар
Юлія Францаўна ЗАРЭЦКАЯ.

**Рэдакцыйная калегія:**
Анатоль АКУШЭВІЧ, Сяргей ВОЛКАЎ, Навум ГАЛЬПЯРОВІЧ, Мікола ПРГЕЛЬ, Тамара ДАНІЛЮК, Валянціна ДУБРОВА, Юлія ЗАРЭЦКАЯ, Казімір КАМЕЙША, Алег КАРПОВІЧ, Уладзімір МАТУСЕВІЧ, Міхась ПАЗНЯКОЎ, Павел САКОВІЧ, Уладзімір САЛАМАХА, Васіль ТКАЧОЎ.

**Рэдакцыя:**
Аляксандр КАРШАКЕВІЧ *(намеснік галоўнага рэдактара, мастацкі аддзел),*
Наталля КУЛЬГАВАЯ *(аддзел фельетонаў і пісьмаў).*

*Рэдактар стылістычны* Марыя ПЛЕВІЧ.
*Камп'ютарная вёрстка*
Святлана ТАРГОНСКАЯ.

**Юрыдычны адрас: 220013, Мінск, вул. Б. Хмяльніцкага, 10а.**

**Адрас рэдакцыі:**
**220005, Мінск,**
**праспект Незалежнасці, 39.**
**E-mail:a-vojik@yandex.ru**

***Тэлефоны:***
***галоўнага рэдактара – 288-24-62, намесніка галоўнага рэдактара, аддзела літаратуры, мастацкага аддзела – 284-84-52, бухгалтэрыі – 287-18-81, факс – 284-84-61.***

Рукапісы не рэцэнзуюцца і не вяртаюцца. Перадрукоўваючы матэрыял, трэба абавязкова спасылацца на «Вожык». Разглядаюцца рукапісы, надрукаваныя на машынцы або набраныя на камп'ютары. Аўтары публікацый нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Рэдакцыя можа друкаваць матэрыялы, не падзяляючы пазіцыю і думку аўтараў.

Падпісана да друку 12.08.2013
Фармат 60х84 1/8. Афсетны друк.
Папера афсетная. Ум. друк. арк. 2,79.
Ул.-выд. арк. 3,64. Тыраж 1767 экз.
Заказ 2545.

Кошт нумара ў розніцу 16 800 руб.

Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220013, Мінск,
праспект Незалежнасці, 79.
ЛП № 02330/0494179 ад 3.04.2009.